# ДЕНЬ

Штотыднёвік, выдаецца з красавіка 2001 года, выходзіць штолчацвер, выдавец і заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»

8 – 14 красавіка 2004 года | № 11 (183) | Кошт 500 рублёў

**СА СВЯТАМ!**

*Калектыў ДНЯ віншуе ўсіх вернікаў са светлым святам Пасхі!*

*Хрыстос уваскрос – і Беларусь уваскрэсне!*

# Прадпрымальнікі «ўзялі» гарвыканкам

## Нягледзячы на гэта, плаціць за ліцэнзіі ўсё адно прыйдзецца

**Стыхійны мітынг пратэсту прадпрымальнікаў адбыўся 31 сакавіка ля будынку Гарадзенскага гарвыканкама. Прадпрымальнікі пратэставалі супраць увядзення ліцэнзавання рознічнага гандлю. Старшыня Гарадзенскага гарвыканкама Аляксандр Антоненка паспрабаваў залагодзіць настроі прадпрымальнікаў і пайшоў на беспрэцэдэнтны крок. Ён запрасіў усіх мітынгоўцаў на перамовы ў будынак гарвыканкаму. Не зважаючы на гэта, кампрамісу дасягнуць не ўдалося.**

### На плошчы Леніна

31 сакавіка каля 11 гадзінаў людзі пачалі збірацца на плошчы Леніна ля будынку гарвыканкама. Цікава, што ўлётак з заклікам прыняць удзел у акцыі пратэста, на гэты раз на гарадзенскіх рынках не было. Удзельнікі акцыі тлумачылі, што даведаліся пра тое, што будзе мітынг пратэсту ад сваіх сяброў.

- *Пакуль нас было мала, міліцыянты паводзілі сябе вельмі нахабна. Нам пагражалі, што ўсіх мужчын, якія ўдзельнічаюць у акцыі, пасадзяць,* - гаворыць 34-гадовая прадпрымальніца Алена. – *Потым з'явіўся АМАП, плошчу ачапілі, і мы сышлі ў парк.*

Стыхійны мітынг працягнуўся ў парку Жылібера. Тым часам, колькасць удзельнікаў акцыі пратэсту павялічылася да 500 чалавек. Да пратэстуючых выйшаў старшыня Гарадзенскага гарвыканкама Аляксандр Антоненка.

*Працяг на стар.3*



Фота Андрэя АДЛЯНІЦКАГА

*Пратэстуючыя прадпрымальнікі ў залі паседжанняў гарсавета*

# Міліцыя крые КГБ, а КГБ маўчыць

**На мінулым тыдні оперупаўнаважаны Ленінскага РАУС Саўткін, які вёў праверку па спробе пранікнення ў гарадзенскі офіс газеты ДЕНЬ, вынес пастанову аб адмове ў ўзбуджэнні крымінальнай справы. Гэтае рашэнне было санкцыянавана кіраўніцтвам Ленінскага РАУС. Паводле міліцыі, ніякай спробы пранікнення ўвогуле не было.**

### Хлусня ў пагонах

Пастанова аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супярэчыць як папярэднім дзеянням следчых, так і фактам высветленым карэспандэнтамі ДНЯ. Згодна з пастановай оперупаўнаважанага, затрыманымі міліцыяй асобамі з'яўляюцца Аляксандр Вашкевіч, які пражывае па вуліцы Пушкіна 22 – 24 і Віктар Макараў – вуліца Мендзелеева 33 – 3. Але яшчэ раней карэспандэнты ДНЯ наведалі вышэйназваныя адрасы і выявілі, што асобы, якія там жывуць, не маюць ніякага дачынення да спробы пранікнення ў офіс нашай газеты.

Акрамя таго, згодна з пастановай, ніякай спробы пранікнення ў офіс ДНЯ не было. Аказваецца, "Вашкевіч", які быў апазнаны намі як супрацоўнік УКГБ па Гарадзенскай вобласці, і "Макараў" проста прыйшлі пад дзверы гарадзенскага офісу газеты ДЕНЬ, каб "выпіць гарэлкі".

*Працяг на стар. 14*

### Надвор'е Дня

**8 красавіка** па Гродне воблачна, удзень +9, уначы +8, ападкі;
**9 красавіка:** воблачна, удзень +7, уначы +5,ападкі;
**10 красавіка:** сонечна, удзень +6, уначы +3,без ападкаў;
**11 красавіка:** вобл., удзень +6, уначы +1, без ападкаў;
**12 красавіка:** сонечна, удзень +7, уначы +1, без ападкаў;
**13 красавіка:** вобл., удзень +13, уначы +2, без ападкаў;
**14 красавіка:** вобл., удзень +11, уначы +5, без ападкаў.

### Пасха

*Даляцеў зь нябёсаў звон прарочы,*
*нібы пошчак капытоў каня.*
*Ксёндз ня можа дачакацца ночы,*
*поп чакае надыходу дня.*

*Я ж пільную, як бабуля "пасху" –*
*булку смачную сьпячэ й пірог.*
*І тады зь вясновым пахам краскаў*
*у маёй душы ўваскрэсьне Бог.*

**Юры ГУМЯНЮК**

### У школе такому не вучаць

**Васьмікласнік, стрэліўшы ў акно з паляўнічага карабіна, выбіў два зубы ў пасажыра праязджаючай міма машыны.**

Зараджаны карабін з'явіўся ў прыватнай хаце па вуліцы Каханоўскага выпадкова. Яго прынес з сабой сябра сям'і, які вяртаўся з палявання. На нейкі час мужчына выйшаў, пакінуўшы зброю без нагляда. Гэтым і скарыстаўся 15-гадовы жыхар дома, які стаў гуляцца карабінам. Як потым сцвярджаў хлопец, ён ні ў каго не цэліўся і ўвогуле стрэліў выпадкова. Тым не менш, куля вылецела ў акно і трапіла ў ніжнюю сківаю пасажыра аўтамабіля Аўдзі-100, які праязджаў міма. Кіроўца машыны выклікаў хуткую. Пацярпелы гарадзенец, 1974 года нараджэння, знаходзіцца зараз у шпіталі. Дактары гавораць, што ягонае жыццё ў бяспецы, але, як мінімум, два зуба трэба будзе ўставіць.

Падлетак перажыў лёгкі шок і атрымаў прачуханца ад бацькоў. А вось паляўнічы можа і за краты сесці. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа за парушэнне правілаў захоўвання агнястрэльнай зброі.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

### Атлантыда Аляксея Марачкіна

**13 красавіка ў гарадзенскай галерэі Тызенгаўза адкрыецца выстава жывапісу Аляксея Марачкіна "Мая Атлантыда".**

У мастака даўняя лучнасць з Гроднам. На пачатку 80-х мінулага стагоддзя, дзякуючы Аляксею Марачкіну, у мясцовы гісторыка-археалагічны музей трапіла карціна Пётры Сергіевіча "Каліноўскі і Урублеўскі на агледзе паўстанцаў". Гарадзенцы ж ведаюць Марачкіна па карцінах з серыі "Паданні і легенды Беларусі", партрэтах "Язэп Драздовіч" (1978), "Францыск Скарына" (1978).

У галерэі Тызенгаўза мастак пакажа плён працы апошніх гадоў. Поруч з рэалістычна-фігуратыўнымі палотнамі (партрэт, нацюрморт) – запрэзентуе творы абстрактна-метафарычнага характару і сваю аўтамонаграфію "MARA".

**Адам ГОНАР**

## Шведскі тыдзень

Ад Гродна да Стакгольма значна бліжэй, чым да Масквы. Гэтае маё адкрыццё, аднак, блякне ў параўнанні з тым, што я даведаўся накont блізкасці нацыянальнага характара беларусаў і шведаў.

Першым думку пра падабенства скандынаваў з намі падаў шведскі журналіст Тобіас Люнгваль, падчас нашага адпачынку ўвечары за куфлем піва ў кітайскім рэстаранчыку на Свейвёген, што ў самым цэнтры шведскай сталіцы.

- Працавітыя, неканфліктныя, упартыя, старанныя, нязлосныя, - паўтараў Тобіас за мною тыя вызначэнні, якія, на маю думку, можна ўжыць у адносінах да маіх землякоў.

А потым урачыста падсумаваў:

– Тыя самыя якасці характэрныя таксама і для шведаў!

Тобіас добра ведае беларусаў і Беларусь. У мінулым годзе ён нават напісаў кнігу пра нашую Радзіму з красамоўнай назвай – "Кантроль". Праўдападобна, што менавіта гэтая кніга стала прычынай таго, што, нядаўна, пры наяўнасці беларускай візы, Тобіаса Люнгваля папросту не пусцілі ў Беларусь.

Шведы цікавяцца Беларуссю. Мае сустрэчы ў міністэрстве замежных справаў з сакратаром дэпартамента Ганнай Лыберг; з групай дэпутатаў рыксдага ад Ліберальнай партыі на чале з Сэсіліяй Вігстром; з кіраўніком парламенцкай камісіі па міжнародных справах Урбанам Алінам – толькі частка гэтай цікавасці. Лакаматывам яе з'яўляецца актыўнасць простых шведаў. Мой пяцідзённы побыт у гэтай паўночнай краіне стаўся магчымым, дзякуючы Марыі Сёдерберг, даўняму сябру нашай краіны, чалавеку фантастычнай энергіі, арганізаванасці і спагады. Яна часта наведвае Беларусь, стварыла цэлую фотагалерэю беларускага Палесся, шмат піша ў шведскім друку пра беларусаў. Але галоўны клопат Марыі – наладжванне стасункаў паміж людзьмі Швецыі і Беларусі.

Пасля маёй сустрэчы са спадарыняй Карын Жамцін, міністрам шведскага ўраду па справах супрацоўніцтва і дапамогі, Марыя з сумам зазначыла:

- На жаль, такую сустрэчу нельга арганізаваць з беларускім амбасадарам у Стакгольме...

Як высветлілася, падтрымліваючы лінію Еўрасаюза на дэмакратызацыю Беларусі, шведскі ўрад мае абмежаваныя кантакты з прадстаўнікамі беларускага ўрада. Як гэта адбіваецца на беларуска-шведскіх стасунках, мяркую, зразумела без доўгіх словаў. Між тым, беларусам ёсць што пераняць у шведаў.

Усе пяць дзён знаходжання ў Швецыі я не пераставаў здзіўляцца з таго, як на гэтых халодных гранітах, якія парaслі чэзлым лесам, без нафты, газу ды іншых карысных выкапняў, можна было пабудаваць грамадства, дзе кожны чалавек пачувае сябе абароненым і значным. У вачах шведаў, якія няспешна шпацыруюць прыгожымі і багатымі вуліцамі Стакгольма, заўважыў я спакой і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Шкада, але гэтага ўжо даўно няма ў вачах жыхароў Беларусі, якія на самой справе вельмі падобныя на шведаў.

**Мікола МАРКЕВІЧ**

# Пратэст? Так. Але масавы

**Бунт прадпрымальнікаў на рынку "Карона", які не дазволіў прадстаўнікам дзяржкантроля скончыць праверку, стыхійны мітынг на плошчы Леніна, у выніку якога кіраўнік гарадской вертыкалі вымушаны "запрасіць" прадпрымальнікаў на размову ў будынак гарвыканкаму. Гэта падзеі мінулых тыдняў, якія паказваюць як расце градус грамадскага жыцця ў Гродне. На мінулым тыдні мы спыталіся**

***Ці актыўным пратэстам на Беларусі магчыма абараніць свае правы?***

### СУПРАЦЬ



■ ***Іосіф Гайдукевіч,*** *старшыня Гарадзенскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў:*

- Гэта не выйсце - кінуў працу і пайшоў на мітынг! Канешне, сёння ёсць праблемы. Але, я так разумею: у нас ёсць улада – і ўсе пытанні павінны вырашацца з уладай. Калі мы працуем з уладай, то мы павінны знаходзіць шляхі развязання ўзніклых праблемаў у дыялогу, а не ў шуме-гаме. Рашэнні заўсёды ўдаецца знаходзіць. Я прыхільнік нармальнай, талковай, штодзённай супрацы ўлады і любога суб'екта гаспадарання. Дамовіцца можна – гэта я кажу па свайму досведу працы ў Лідзе. Я пяць год на пасадзе старшыні райвыканкама працаваў з прадпрымальнікамі лідскага рынка – і яны нікуды не выходзілі!

### ЗА



■ ***Валеры Леванеўскі,*** *кіраўнік агульнанацыянальнага стачкама Рэспублікі Беларусь:*

- Можна, але гэта павінен быць масавы пратэст. Акцыя не проста дзеля пратэсту, а актыўны пратэст, дзеля абуджэння мас. Практыка паказвае, што добра падрыхтаваны пратэст аказвае вялікае ўздзеянне. Прыкладам, у 2001 годзе, мы зрабілі шырокамаштабную акцыю, і ў выніку улада прыняла дэкрэт, які нам быў патрэбны. Але тады гэта была масавая акцыя. Цяпер мы плануем акцыю пратэста на 1 траўня, робім яе ў дзень працоўных, бо збіраемся, між іншага, выкарыстоўваць дзеля пратэсту і дзяржаўныя святы. Градус кіпення мас ужо высокі. Людзі атрымалі рахункі за кватэру па 100 тысячаў і саспелі. Але кожны пратэст павінен быць ударам моцным і дакладным.

**Ці актыўным пратэстам на Беларусі магчыма абараніць свае правы?**




***Вынікі інтэрнэт-галасавання на http://pahonia.promedia.by***

Толькі крыху больш за адзін адсотак апытаных грамадзянаў Беларусі, лічыць, што барацьба з карупцыяй у нашай краіне мае плён– падае Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследванняў. Каля сямі адсоткаў перакананыя, што змагацца з карупцыяй немагчыма. А трэцяя частка беларусаў, паводле НІСДЭП, адзначае, што цяпер плаціць даводзіцца больш, чым да часоў Аляксандра Лукашэнкі. ДЕНЬ цікавіцца:

***Ці можна ў Беларусі выжыць, не даючы хабару?***

Чакаем вашых меркаванняў штодня з 10 да 17 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**



## У Гродне чыталі...

### ...55 год таму...

"Более 300 трудящихся Гродно вышло на первый массовый воскресник по расчистке Советской площади. Они пришли сюда с мыслью вложить свой труд в благоустройство родного города, сделать его чистым, красивым, культурным. Зазвенели на площади лопаты, с грохотом падали под ударом кирок обломки разрушенных зданий".

**Гродзенская праўда, 1949 год, 10 красавіка**

### ...10 год таму...

"Па прыкладу нашых суседзяў, летувісаў, пачало дзейнічаць гарадзенскае аб'яднанне "Хваля". Тут наўзамен зарплаты рабочым і служачым выдаюць аўтамагнітолы й радыёстанцыі. Цікава, калі зарплаты не хапае да кошта "падарунка" адміністрацыі, то рабочаму ўсё роўна выдаюць радыётэхніку ў лік будучых заробкаў"

**ПАГОНЯ, 1994 год, 8-14 красавіка.**

### ...5 год таму...

"А. Дубко: У меня на столе лежит бумага, что Минску надо поставить ежедневно 38 тонн колбасных изделий, 30 тонн мяса, 3 тонны масла и другие продукты"

**Биржа информации, 1999 год, 15 красавіка**



*Праз лінзы Алеся* **ЧОБАТА**

# Беларускі пашпарт

Мае бацькі атрымалі загад выпісаць беларускія пашпарты – "сіненькія" замест савецкіх "красненькіх". Абодвум зараз па восемдзесят, але заплоцяць і выпішуць, бо інакш банк перастане з чэрвеня плаціць пенсію.

У мяне ёсць "сіненькі" пашпарт, які азначае беларускае грамадзянства. Але з восені ўжо не будзе – калі дажыву да 45 гадоў, то пашпарт з грамадзянствам прападуць. Калі толькі не пайду плаціць за яшчэ адзін такі самы пашпарт, збіраць тыя самыя паперкі, пісаць тыя самыя анкеты, стаяць у тых самых калейках да тых самых столаначальнікаў. А па дарозе мяне адашлюць за прапіскай у ЖЭК, за даведкай у ваенны каміса-рыят і, нарэшце, будуць доўга думаць, ці паставіць штамп пра выезд за мяжу "если вы нигде не работаете и не то пишете". І для чаго мне такі пашпарт? Каб за яго хадзіць і плаціць? Стары бацька мусіць, бо прыгонены да банка і пенсіі. А мне для чаго пашпарт? Каб мець беларускае грамадзянства, бо я нагарадзіў восем кніжак і мушу быць патрыётам? А для чаго мне грамадзянства дзяржавы, якая толькі бярэ грошы і плюе на нас як на рабоў? Не хачу я такога грамадзянства, і не пайду за свае грошы прасіць пашпарт. А таму "в связи с достижением 45-лет и автоматическим исключением из списков граждан Республики Беларусь, прашу считать меня условно умершим". Бо не хачу быць у той дзяржаве, якая ўзнае за людзей толькі тых, хто прыдзе прасіць, назбірае паперак, схіліць галаву, адбудзе калейку і яшчэ сам за тое заплаціць. Няхай у такой дзяржаве жывуць не людзі, а пашпарты, штампы і прыгонныя прапіскі. Бо няма Рэспублікі Беларусь, а ёсць Рэспубліка Бюракратыя. Так што ўмоўна памёр, грамадзянін Чобат.

Свет ідзе ў такім кірунку, што дакументаў у чалавека зараз зусім не будзе – як не было ці амаль не было да XVIII стагоддзя. Бо гэта ўсё змесціць у кампутар, і таксама як цяпер на мяжы афіцэр пускае ў машынку пашпарт, таксама будзе запіхваць у тэстар палец і экран усё пра цябе пакажа – ад грамадзянства да грошай у банку і групы крыві ў жылах, ці колькасць зубных пратэзаў у роце. І гэта будзе роўна і ўсім справядліва. І ніводзін крымінальнік або тэрарыст нічога не падробіць і нідзе не схаваецца.

Бо няма аднолькавых адбіткаў пальцаў – Гасподзь Бог сам падумаў, як пазнаць кожнага з нас на Страшным Судзе і зрабіў кожнага на сваё падабенства, але адзіным і непаўторным і грошай за тое не браў. Гэта бюракратыя прыдумала браць грошы з людзей быле за што і ні за што. Гэта бюракратыя выдумала выдачу і замену пашпартоў, нумарных знакаў аўтамабілям і прапісак людзям, нумарных бляхаў катам і сабакам, дамавых кнігаў камунальным кватэрам, страхавых полісаў начлежным дачным будкам, актаў карыстання шасці соткамі беларускага пяску і, нарэшце, актаў тым, хто ў гэтым пяску ўжо ляжыць на могілках, каму ўжо нічога не трэба. Хутка мёртвы будзе плаціць за тое, што ён мёртвы і нічога яму не трэба. Бо толькі мёртвым яшчэ не трэба такога сораму, як пашпарт з прапіскай і штампа выезда за мяжу.

Ці значыць гэта, што ў Рэспубліцы Бюракратыя толькі мёртвыя гэта людзі? Чаму ж тады могілкі закінутыя, ці пушчаныя пад бульдозер, каб на касцях дарога прайшла? Куды тая дарога? Нікуды. Кальцавая ■

## Лічба дня

**9316** жыхароў Гарадзеншчыны прайшлі ў сакавіку праверку на наяўнасць ВІЧ-інфекцыі. На сённяшні дзень здаць кроў на СНІД можна бясплатна ў любой медыцынскай установе. Можна праверыцца і ананімна. У Гродне такую паслугу прадстаўляе Аддзел прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі, што знаходзіцца па праспекце Касманаўтаў, 58. Там жа працуе тэлефон даверу: 75-57-14.



На 1 красавіка бягучага года па вобласці зарэгістравана 192 выпадкі ВІЧ-інфекцыі, чатыры з іх выяўлена сёлета. Большасць носьбітаў ВІЧ-інфекцыі, 116 чалавек, пражывае ў Лідзе. У Гродне зарэгістравана 23 ВІЧ-інфікаваных.

# Прадпрымальнікі «ўзялі» гарвыканкам

Працяг. Пачатак на стар. 1

*- Калі Антоненка пачаў гаварыць, быў ужо вялікі натоўп і яго было дрэнна чуваць,* - гаворыць Сяргей, які гандлюе на рынку "Карона".

Таму старшыня Гарадзенскага гарвыканкама запрасіў прадстаўнікоў пратэстуючых прадпрымальнікаў для перамоваў у будынак Гарадзенскага гарвыканкама. Аднак, з такім паваротам справы мітынгоўшчыкі не пагадзіліся.

*- Людзі заявілі, што ў нас няма прадстаўнікоў,* - гаворыць Сяргей.

Тады Антоненку нічога не заставалася, як запрасіць у будынак выканкаму ўсіх прысутных. Варта адзначыць, што гарадзенскія ўлады ў адносінах да пратэстуючых пайшлі на беспрэцэндэнтны крок. Гэты факт толькі падкрэслівае складанасць сітуацыі, у якой апынуліся прадпрымальнікі.

## У гарвыканкаме

Будынак гарвыканкама быў ачэплены міліцыяй. На кожным паверсе былі ўзмоцненыя патрулі АМАП-у. Сярод прадпрымальнікаў было шмат супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным, якія маскіраваліся пад удзельнікаў акцыі пратэсту. Усё, што адбывалася ўнутры, здымалася на відэакамеры міліцыянтамі ў цывільным. Аднак, нягледзячы на такую выразную дэманстрацыю сілы, запужаць людзей не ўдалося.

Перамовы паміж бакамі адбыліся ў залі Гарадзенскага гарадскога Савета дэпутатаў. Яна не здолела змясціць усіх жадаючых, і людзі былі вымушаныя стаяць у праходзе паміж радамі. Тыя, хто выступалі, гаварылі пра тое, што набалела: пра велізарныя падаткі, пра незразумелы статус прадпрымальніка ў вачах чыноўнікаў, пра бясконцыя праверкі і паборы...

*- Ліцэнзаванне я адмяніць не магу, але з праверкамі, з падаткамі, з Камітэтам дзяржаўнага кантролю я абяцаю разабрацца,* – паабяцаў прадпрымальнікам старшыня Гарадзенскага гарвыканкама **Аляксандр Антоненка.**

Аднак, гэтыя словы не пераканалі прысутных, для якіх галаўным болем усё ж такі з'яўляюцца ліцэнзіі.

*- Мы катэгарычна супраць ліцэнзій! І сёння мы прыйшлі папярэдзіць вас аб тым, каб вы чакалі нас у службе занятасці 1 мая. Рыхтуйце нам працоўныя месцы,* - заявіла маладая прадпрымальніца ў адказ на словы старшыні гарвыканкама.

*- Трэба будаваць магазіны... Колькі зайгодна можна гаманіць, але той, хто глядзіць у будучыню, той хто глядзіць наперад, няхай прыходзіць да нас. Гораду патрэбны нармальныя магазіны. Рынкі раней ці пазней адамруць,* - пераконваў Антоненка.

*- Адамруць разам з намі!* - выкрыкнуў у адказ нехта з залі.

На пытанні прадпрымальнікаў адказвалі таксама начальнік Упраўлення гандлю і грамадскага харчавання Гарадзенскага гарвыканкама Уладзімір Стома, галоўны ўрач Гарадзенскага гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміалогіі Мікалай Кендыш і прадстаўнікі абласной падатковай інспекцыі. Прадпрымальнікі спрабавалі высветліць, якім чынам быў усталяваны кошт ліцэнзіяў – 100 еўра. Аднак, ніхто з прысутных чыноўнікаў патлумачыць гэтага не здолеў.

Падсумавала сустрэчу прадпрымальніца сталага ўзросту:

*- Мы сабраліся тут і нічога не вырашылі! Вы скардзіцеся на Саўмін, а Саўмін адказвае, што падобныя рэчы павінны вырашаць мясцовыя саветы. Мяне трасе ад гэтай дэмагогіі. Вы можаце вырашыць нашыя пытанні, але не хочаце! Усімі гэтымі праверкамі вы хочаце нас распрануць.*

Апошнім з прадстаўнікоў гарадзенскай улады слова ўзяў палкоўнік міліцыі Юрый Чабанаў, які ад імя Упраўлення ўнутраных справаў, пачаў папярэджваць прадпрымальнікаў пра магчымыя наступствы арганізацыі несанкцыянаваных вулічных акцый. У адказ пачуліся свісты і прадпрымальнікі, нават, не даслухаўшы міліцыянта пачалі разыходзіцца.

## Вынікаў няма?

*- Мы ні пра што сёння не дамовіліся. Але няхай не думаюць, што нас запалохаюць. Не на такіх нарваліся,* - гаворыць адна з удзельніц акцыі. На яе думку, гэтая акцыя толькі пачатак барацьбы.

*- Калі будуць уведзены ліцэнзіі, гэта будзе канец рынкавага гандлю. Пра гэта ўсе ведаюць!* - сцвярджае яна.

Нагадаем, што ў адпаведнасці з Дыкрэтам прэзідэнта №17, ліцэнзіі трэба атрымаць да 1 мая. Усе, хто пасля гэтага тэрміну не будзе мець ліцэнзіі, вымушаны будуць спыніць сваю дзейнасць. Між тым, як стала вядома ДНЮ, Савет міністраў разважае магчымасць адтэрміноўкі ўвядзення ліцэнзій на розьнічны гандаль. Праект адпаведнага указа прэзідэнта 30 сакавіка быў разгледжаны на паседжанні Прэзідыўма Савета міністраў.

Ва ўпраўленні гандлю і грамадскага харчавання Гарадзенскага гарвыканкама перакананы, што ніякіх зменаў у парадку ліцэнзавання ці ў тэрмінах атрымання ліцэнзій не будзе.

*- 30 і 31 сакавіка да нас звярнулася шмат людзей, але сёння, як вы бачыце ніякага ажыятажу няма... Ніякіх зменаў у сувязі з выдаваннем ліцэнзій не плануецца. Хачу заклікаць усіх прадпрымальнікаў – прыходзьце за ліцэнзіямі, мы іх усім выдадзім. З гэтым няма ніякіх праблемаў,* - заявіў начальнік упраўлення гандлю і грамадскага харчавання Гарадзенскага гарвыканкама **Уладзімір Стома.**

Паводле ягоных словаў, на сённяшні дзень ліцэнзіі атрымалі больш за 1000 гарадзенскіх прадпрымальнікаў. Па краіне, па неафіцыйных звестках, ліцэнзіі атрымалі да 10 адсоткаў прадпрымальнікаў.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**



Фота Андрэя АДЛЯНІЦКАГА

*Міліцыі не ўдалося запалохаць прадпрымальнікаў*

■ ***Дзмітры Іваноўскі,** намеснік старшыні рэспубліканскага аб'яднання прадпрымальнікаў "Перспектыва":*

- Саўмін разглядае магчымасць адтэрміноўкі ўвядзення ліцэнзій, але сцвярджаць, што гэта вынік толькі акцый пратэста прадпрымальнікаў нельга. Ва ўладзе таксама ёсць нармальныя людзі, якія спрабуюць давесці шкоднасць падобных рэчаў. Калі будуць уведзены ліцэнзіі, якія можна назваць аднаразовым зборам у памеры 100 еўра, альбо рэкецірскім зборам у памеры 100 еўра... Калі пачнуць дзейнічаць новыя правілы гандлю на рынках, для стварэння магчымасці выкарыстання якіх, мясцовыя ўлады сёння нічога не робяць, то гэта значна павялічыць колькасць беспрацоўных. Тысячы прадпрымальнікаў, якія сёння кормяць сябе і свае сем'і, у адзін момант застануцца без працы... Гэта таксама мае свой уплыў.

## Колькасць прадпрымальнікаў у гарадзенскай вобласці




Гарадзенская вобласць адзіная, дзе зафіксавана зьмяншэнне колькасці прадпрымальнікаў

*Паводле дадзеных Міністэрства эканомікі*

## Апытанне дня

**Ці лічыце вы, што прадпрымальнікаў трэба абкладаць вялікімі падаткамі, каб такім чынам знайсці грошы на падтрымку малазабяспечаных пластоў грамадства?**



**Вераніка, вучаніца:**

- Не. Чым большы падатак, тым менш стане прадпрымальнікаў. А менш прадпрымальнікаў, значыць менш працоўных месцаў. У выніку атрымаецца, што вырасце беспрацоўе і паступленняў у бюджэт наўрад ці стане больш.



**Інна Станіславаўна, маці дваіх дзяцей у дэкрэтным адпачынку:**

- Не. Ім падвысяць падаткі, а яны нам падвысяць кошты. А цярпець з гэтага будуць звычайныя пакупнікі. Я знаходжуся ў дэкрэтным адпачынку і не думаю, што дзіцячае "пасобіе" падвысяць настолькі, наколькі прадпрымальнікі падвысяць кошты.



**Ала Мікалаеўна, пенсіянерка:**

- Не, бо яны і зараз ужо шмат плацяць. Дзяржава павінна ўзяць на сябе абавязак у падтрымцы малазабяспечыных, а не прадпрымальнікі. У нас усе праблемы ад нашай безгаспадарнасці. Трэба навесці парадак на прадпрыемствах, стварыць працоўныя месцы, тады і грошы будуць на падтрымку.



**Аляксей, выкладчык:**

- Не магу сказаць дакладна, але лічу, што такім чынам праблему не вырашыш. Калі забіраеш ад адных і аддаеш другім, то ў выніку церпяць абодва бакі. Трэба шукаць іншыя крыніцы папаўнення бюджэта.



**Павал, служачы:**

- Не, можна знайсці іншыя сродкі папаўнення бюджэта. Трэба прыцягваць інвестыцыі, разумна выкарыстоўваць сродкі прадпрыемстваў, скараціць штат міліцыі.



**Ала, трэнер-выкладчык:**

- Не. У такой сітуацыі прадпрымальнікам не мае сэнсу працаваць, атрымаецца праца задарма. Да таго ж, калі ім падвысяць падаткі, узрастуць кошты на тавары, знізіцца пакупніцкая здольнасць. Няўжо ад гэтага малазабяспечаным стане лепш жыць?

Апытвала **ЮЛЯ КОЦКАЯ**

# Галадалі? Цяпер плаціце!

**Рашэнне на карысць падатковай інспекцыі прыняў абласны гаспадарчы суд па зыску ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча. Згодна з рашэннем, Аўтуховіч мусіць заплаціць 267 мільёнаў рублёў фінансавых санкцыяў, што аўтаматычна ліквідуе ягоны бізнес. Прадпрымальнік мае намер абскарджваць гэтае рашэнне.**

Калегія з трох суддзяў абласнога гаспадарчага суда вынесла рашэнне, што санкцыі ў 267 мільёнаў рублёў, вынесеныя абласной падатковай інспекцыяй да прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча, – справядлівыя. Сам Аўтуховіч лічыць рашэнне суда незаконным і рыхтуе касацыйную скаргу. Падставай для касацыі стануць працэсуальныя парушэнні, што дапусцілі суддзі – яны не далі Аўтуховічу права выступлення ў спрэчках. Гэта яны патлумачылі тым, што ён, хаця і прысутнічаў у зале суда і слухаў выступы іншых бакоў працэса, "прапусціў сваю чаргу". Аўтуховіч лічыць, што такія паводзіны суддзяў падчас працэса і прынятае рашэнне, сведчаць пра прадвызначанасць выраку.

*- Фактычна, сваім рашэннем суд паспрабаваў падвесці прававую базу пад аргументы падатковай інспекцыі,* - гаворыць Аўтуховіч. *– Калі падатковая раней не мела абгрунтавання сваіх прэтэнзіяў, дык гэта за яе зрабіў суд. Але нават ў гэтым абгрунтаванні яны наймысна блытаюць паняцці.*

Нагадаем, што ў кастрычніку мінулага года Мікалай Аўтуховіч разам з трыццацю сваімі работнікамі тры тыдні трымаў галадоўку пратэсту, пасля таго, як падатковая інспекцыя вынесла рашэнне фінансавых санкцыяў і арыштавала 13 таксовак, што належылі Аўтуховічу. Толькі пасля дамовы, што падаткавікі здымуць арышт, Аўтуховіч і яго людзі спынілі галадоўку. Таксісты працягнулі працу, а Аўтуховіч пачаў працэс абскарджвання рашэння падаткавай у судах.


Мікалай Аўтуховіч

Цяпер Аўтуховіч з адвакатамі рыхтуе касацыйную скаргу на рашэнне абласнога гаспадарчага суда. Але ў панядзелак канцылярыя гаспадарчага суда выдала яму нечытэльную копію судовага рашэння, чым ледзве не пазбавіла прадпрымальніка магчымасці надалей дамагацца справядлівасці. Такая копія аўтаматычна пазбавіла б Аўтуховіча магчымасці падаць касацыйную скаргу, бо нечытэльныя дакументы судовымі ўстановамі не прымаюцца. Супрацоўніцы канцылярыі спасаліся на тое, што ў судзе зламаўся факс і толькі пасля таго, як адвакат Мікалая Аўтуховіча прыгразіла паскардзіцца старшыні суда, яны выдалі якасную копію матывіровачнай часткі.

Тры тыдні таму ў Вышэйшым гаспадарчым судзе аналагічны зыск прайграла фірма-партнёр Мікалая Аўтуховіча "Ніка Транс", да якой абласная падатковая за тое самае парушэнне ўжыла санкцыі на суму 444 мільёна рублёў. Але праз некалькі дзён намеснік старшыні суда прыпыніў выкананне эканамічных санкцыяў у дачыненні да фірмы, пакуль не пройдзе ўвесь працэс абскарджвання.

**Ліза МАНЯК**




## Сезон на максімуме

**15 красавіка, у Салігорску гульнёй з "Шахцёрам" гарадзенскі "Нёман" распачне чарговы чэмпіянат Беларусі па футболе.**

Аб падрыхтоўцы каманды да сезона ДЕНЬ размаўляе з галоўным трэнерам каманды Сяргеем Саладоўнікавым,

**- Ці задаволеныя Вы праведзеным камандай міжсезоннем?**

- Добра, што з'явілася фінансавая стабільнасць, хай сабе і мінімальная. На зборы ў Польшчы ўдалося плённа патрэніравацца, ды і гулялі пры выдатным надвор'і. Збор жа ў Чэхіі з-за неспрыяльнага надвор'я быў фактычна сарваны. Мы амаль не бачылі каманду ў нармальных умовах. Кантракты з навічкамі падпісвалі, фактычна не маючы цэльнага ўяўлення пра іх магчымасці.

**- Абсалютная большасць новых гульцоў запрошаная вамі з Расеі ды Украіны...**

- Набыць у Беларусі прыстойных футбалістаў, калі яны не сядзяць і чакаюць, а варушацца з варыянтамі, вельмі складана. Усе фактычна знаходзяцца на кантрактах. У Расеі трансферны рынак значна больш шырокі. Там футбалісты з ніжэйшых ліг імкнуцца паказаць сябе з найлепшага боку, прэзентаваць тое, на што яны здольныя на больш высокім узроўні. Да таго ж мы сабралі футбалістаў, на якіх разлічваем не толькі ў гэтым чэмпіянаце, але і ў перспектыве. Склад "Нёману" стаў маладзейшым – пераважна, век гульцоў не сягае за 24 гады. Мы прагледзелі ў міжсезонні каля 25 футбалістаў і спыніліся на самых лепшых.

**- Чаму не быў падпісаны кантракт з чэхам Вацулікам?**

- Чэшскі бок не высоўваў нейкіх звышпатрабаванняў, іх умовы нас задавальнялі. Аднак, на пачатак сезону мы ўжо выдаткавалі тую частку бюджэта, якая была прызначана на набыццё новых футбалістаў. Агулам, калі браць пад увагу матэрыяльныя магчымасці, мы мэтанакіравана шукалі на вакантныя пазіцыі кандыдатаў, якія хай сабе і невядомыя, але дысцыплінаваныя і адказныя. Якія здольныя засвоіць ідэі, што вызнае трэнерскі штаб.

**- Ці ёсць футбалісты, аб зыходзе якіх з "Нёмана", найбольш шкадуеце?**

- У асноўным мы развіталіся па агульнай згодзе і не спрабавалі нікога стрымаць.

**- На каго з гульцоў каманды разлічваеце ў першую чаргу?**

- Тыя, хто быў лідэрам раней і сёння будуць стрыжнем каманды. З'яўляцца на поле ў асноўным складзе Суліме, Крываносу, Лукашову ці Кавалёнку змогуць перашкодзіць хіба што выключныя моманты.

**Ілля ГАПАНОВІЧ**

## З Вялікаднём павіншуе ДАІ

**Супрацоўнікі Гарадзенскага абласнога ДАІ ў бліжэйшыя выходныя будуць віншаваць аўтааматараў з Вялікднём і ўручаць ім паштоўкі з тэкстам малітвы для кіроўцаў. Акцыя адбудзецца ў межах Еўрапейскага тыдня бяспекі дарожнага руху, які праходзіць з 5 па 11 красавіка.**

Паштоўкі выдрукаваны ў двух варыянтах, праваслаўным і каталіцкім, з выявай Каложскай царквы і Фарнага касцёла. Унутры паштоўкі - тэксты малітваў для кіроўцаў. Усе паштоўкі, асвечаныя мясцовымі святарамі, будуць раздавацца на Вялікдзень кіроўцам аўтамабілеў ля храмаў Гродна і раённых цэнтраў.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

## Без Варывончыка

**Пайшоў у адстаўку галоўны трэнер хакейнага "Нёмана" Анатоль Варывончык. Сваё рашэнне ён патлумачыў жаданнем змяніць абстаноўку.**

Анатоль Варывончык знаходзіўся на трэнерскім мастку "Нёмана" нязменна, пачынаючы з 1988 года. За гэты час каманда тройчы перамагала ў Чэмпіянаце Беларусі, неаднаразова атрымоўвала медалі як беларускага першынства, так і чэмпіяната УЕХЛ. Але, вынікі апошніх двух гадоў, калі гарадзенцы ўпершыню засталіся без узнагародаў, сведчаць пра крызіс у камандных справах.

Прозвішча новага трэнера "Нёмана" яшчэ невядомае.

**Ілля ГАПАНОВІЧ**

# Як вы нас ужо завербавалі!

**"КГБ спрабуе завербаваць мяне", – з такімі словамі звярнуўся ў рэдакцыю ДНЯ Зміцер Кухлей, кіраўнік Мастоўскай філіі незарэгістраванай арганізацыі "Малады Фронт". - "У мяне ёсць жонка, маленькі сын, я баюся за іх, таму вырашыў распавесці ўсю гісторыю праз газету". Гаворыць Зміцер Кухлей:**

- 25 сакавіка я вяртаўся на працу з абеда. Працую на ААТ "Мастыдрэў" перакладчыкам. На прахадной мяне ўжо чакаў малады чалавек, супрацоўнік КГБ. Паказаў мне пропуск, сказаў, што вызваліў мяне з працы да канца дня. Ён завёў мяне ў будынак рэдакцыі мастоўскай газеты "Зара над Нёманам". У пакоі, дзе месціцца ветэранская арганізацыя мяне чакаў яшчэ адзін, старэйшы чалавек, які таксама назваўся супрацоўнікам КГБ. Я, на жаль, разгубіўся, і не памятаю ані іх прозвішчаў, ані званняў. Да гэтай сустрэчы малады, які назваў сябе Вася, ужо тры разы на працягу месяца праводзіў са мной размовы. Адбывалася гэта ў машыне, "Мерсэдэс 190" зялёнага колеру. Пытаў на тэмы, якія непасрэдна тычыліся маёй працы. Якія кантракты я вяду, з якімі замежнікамі і як кантактую, і якую магу яму даць інфармацыю адносна замежных грамадзянаў. Ён мне казаў, каб я дапамог у барацьбе з карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі.

Але 25-га сакавіка, пасля ўступнага слова, старэйшы спытаў: "Ты, напэўна, чакаеш, калі мы пачнем?" Старэйшы дастаў некалькі асобнікаў бюлетэняў "Права на волю" і "Масты by". Некалькі дзён таму міліцыя затрымала мяне з гэтымі газетамі ў Лідзе. Яны пачалі пытацца, як я стаўлюся да розных дзеячоў апазіцыі, да таго, што яны ездзяць за мяжу і пачынаюць там "кляміць" нашую краіну. Пасля перайшлі да нацыянальнай ідэі, мауляў, яна добрая, але Пазняк гэтую ідэю ператварыў у шавінізм. Пасля задавалі пытанні па "Маладым Фронце" ў Мастах: што за арганізацыя, хто ўваходзіць, якія мэты. Я прапанаваў ім спытаць пра гэта ў іншым месцы, і сказаў, што на гэтыя пытанні адказваць не буду.

У сярэдзіне размовы, яны прапанавалі мне супрацоўніцтва. Адзін з іх паказаў мне кніжачку з Законам па дзейнасці КГБ і зачытаў вытрымкі, мауляў, супрацоўніцтва з імі законнае, за гэта прадугледжана нейкае грашовае стымуляванне. На працягу ўсёй размовы яны цікавіліся, якой я ўяўляю сабе сваю будучыню. Я так зразумеў, гэта былі намёкі на тое, што ў нечым могуць мне дапамагчы. Я адразу паведаміў, што не буду з імі супрацоўнічаць і тады яны плаўна перайшлі на іншыя тэмы. Пагаварылі, пагаварылі, пасля ізноў спыталі, ці жадаю я з імі супрацоўнічаць. Так было некалькі разоў. Я адмаўляўся. Уся размова цягнулася з гадзіну і толькі, калі я наадрэз адмовіўся ад супрацоўніцтва з імі, мяне адпусцілі.

**Апрацаваў Павал МАЖЭЙКА**

# Паляванне на «пяцёрачнікаў»

**Міліцыянты спрабавалі абшукаць машыну, у якой ехалі лідэры гарадзенскіх апазіцыйных партый. Гэта адбылося 30 сакавіка пасля прэзентацыі "Народнай кааліцыі Пяцёрка плюс" у Смаргоні.**

Гарадзенскія прадстаўнікі кааліцыі былі затрыманы непадалёк Іўя.

*- Адразу пасля заканчэння сустрэчы, мы заўважылі, што за намі вядзецца нагляд,* - гаворыць старшыня гарадзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Уладзімір Чырвоненка.**

Мікрааўтобус, у якім ехалі гарадзенскія апазіцыйныя лідэры, затрымлівалі на кожным міліцэйскім пасту. А каля Іўя машыну спрабавалі абшукаць.

Машына з апазіцыянерамі была затрымана на некалькі гадзінаў. Затым апазіцыянераў адпусцілі без складання пратаколаў.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Дэман прыгажосці

***Каб дасягнуць запаветнае мары, мадэльеру-цырульніку вышэйшай катэгорыі Уладзіміру Няфёдаву давялося змяніць шмат прафесій. Быў ён і дворнікам, і будаўніком, і пастухом, і нават танцорам у кардэбалеце. Але напрыканцы 1980-х лёс даравў Уладзіміру шанец, які ўпусціць для мэтанакіраванага і таленавітага чалавека было б недаравальна...***

*- Як ні дзіўна, але я з дзяцінства марыў стаць цырульнікам,* - згадвае **Уладзімір Няфёдаў.** *– Спярша гэтая мара здавалася недасягальнай, бо нарадзіўся я ў, па-правінцыйнаму задрыпаным, Скідалі, а бацькі (вечная ім памяць) былі звычайнымі рабочымі. Але непераадольнае жаданне дарыць людзям радасць – рабіць іх прыгажэйшымі, дапамагчы знайсці для кожнай асобы адпаведны вобраз – у рэшце рэшт перамагло. І я скончыў Вышэйшую школу цырульнага мастацтва ва Львове.*

## Дэман шчыруе побач з царквой!

Пасля паспяховага заканчэння прэстыжнай львоўскай вучэльні, Няфёдаў працаваў у розных гарадзенскіх цырульнях. Але амбіцыі мастака-мадэльера не давалі супакою і не дазвалялі быць проста цырульнікам. Хацелася мець сваю справу, сваю творчую майстэрню цырульнага мастацтва. І ў пачатку 1990-х Уладзімір адкрывае ўласны салон пад экстравагантнай назвай «У дэмана». Назва выклікала ажыятаж сярод мясцовых прыгажуняў і скандал у «пурытанскім» асяроддзі. Рэч у тым, што пасля змены некалькіх офісаў, Няфёдаў уладкаваў сваю майстэрню ў старым будынку на вуліцы Акадэмічнай – насупраць Дома афіцэраў і непадалёк ад Пакроўскага сабору. Натуральна, узнікла патрэба ў кідкай рэкламнай шыльдзе, якую так і не давялося вывесіць.

*- Да мяне прыйшлі святары з царквы і далікатна папрасілі не вывешваць шыльду «У дэмана»,* - успамінае Уладзімір Няфёдаў. *– Я зразумеў, што побач хрысціянскае святыні падобная «вывеска» будзе толькі раздражняць вернікаў і пагадзіўся з бацюшкамі. Дарэчы, некаторыя з іх апасля сталі кліентамі майго салону...*

> ■ ***Іна Максімчык,** журналістка газеты «Вечерний Гродно»*
>
> - Няфёдаў па сваёй сутнасці - самотнік, які не можа працаваць у калектыве. У маім уяўленні – гэта чыста подыумны майстра, шоў-мэн, пакліканы паказваць публіцы разнастайныя экзатычныя фрызуры з элементамі кветак, народнага адзення ці з вельмі вытанчанымі стылёвымі рэчамі. Шкада, канешне, што Валодзя, пры ўсіх ягоных надзвычайных здольнасцях, не адбыўся, менавіта, як вялікі мастак валос, дызайнер, заканадаўца сусветнай моды. Магчыма, мы шмат чаго пра яго не ведаем. Магчыма, яму патрэбна больш прасторы і сродкаў для здзяйснення сваіх задумак. Магчыма, праблема і ў ягоным вельмі няроўным характары. Бо Няфёдаў, як і многія яркія творчыя індывідуальнасці – чалавек настрою. Але, калі ў Валодзі ёсць жаданне і натхненне, ён можа зрабіць з жанчыны сапраўдную багіню!

## Да Дэмана імкнуцца прыгажуні

У чым сакрэт дэманічнага майстэрства цырульніка Няфёдава, і чаму да яго так імкнуцца кабеты? Чаму яго празвалі Дэманам?

*- Ну, паглядзіце на мяне! Я ж не салодкі прыгожы хлапчук з вокладкі каляровага часопіса,* - заяўляе не без долі іроніі Уладзімір Няфёдаў. *– Я ж Дэман!*

Сапраўды, Валодзя падобны хутчэй на знакамітага ўрублеўскага Дэмана, чым на лагоднага белакурага анёлка. Але сакрэт якраз не ў знешнасці майстра, а ва ўменні адчуваць людзей.

*- У Няфёдава проста залатыя рукі і прыемная энергетыка,* - гаворыць ягоная сталая кліентка **Святлана Жамойціна.** *– Спачатку жанчыны не разумеюць, што майстар робіць з іхнімі валасамі, яны не могуць прызвычаіцца да новай фрызуры. Але пасля ўсведамляюць, што менавіта гэтая фрызура ім пасуе, што гэта іх непаўторны вобраз і стыль. Як выдатны прафесіянал, Няфёдаў ведае і адчувае структуру валос і твар сваёй мадэлі, а таксама яе сацыяльны статус. Ён ніколі не зробіць аднолькавую фрызуру для бізнес-лэдзі і хатняй гаспадыні. Я яму не здраджваю на працягу дзесяці гадоў, і мой муж таксама ў яго стрыжэцца!*

Цікава, што колішняя журналістка «Радыё Гродна» Наталля Грыб, нават пасля пераезду ў Менск, прыязджае рабіць фрызуру да Няфёдава ў Гродна, хаця у беларускай сталіцы безліч цырульных салонаў! Дый іншыя кабеты на працягу многіх гадоў не жадаюць расставацца з любімым майстрам.

Уладзімір Няфёдаў цяпер абслугоўвае збольшага сталых кліентаў. Паводле ягоных словаў, гэта жанчыны, якія ідуць у ногу з часам, якія любяць неардынарнасць і фантазію. А спектр аматарак ягонага цырульнага майстэрства самы шырокі – ад звычайнай прыбіральшчыцы да галоўнага лекара шпіталю ці кіраўнічкі паспяховай фірмы.

*- Прыходзяць стрыгчыся да мяне і мужчыны,* - прызнае наш герой. *– У асноўным гэта прадстаўнікі мясцовай багемы – спевакі і артысты, паэты і музыкі. Шмат хто з тутэйшых знакамітасцяў прайшоў праз майстэрню "У дэмана"...*

## Дэманічная сіла шоў-мэна

Як неардынарная творчая асоба, таленавіты шоў-мэн, каталізатар і рэжысёр тэатралізаванай дзеі Уладзімір Няфёдаў раскрываецца толькі на подыуме ці вялікай фестывальнай сцэне.

*- Я, канешне, не была ў Швецыі, Фінляндыі ці Латвіі, дзе Валодзя Няфёдаў неаднаразова прымаў удзел у сусветных конкурсах ці фестывалях цырульнага мастацтва,* - гаворыць Святлана Жамойціна. *– Затое бачыла гэтыя шоу на відэа. Уражанне неверагоднае, бо менавіта там Валодзя разгортваецца, як асоба, з нечуванай дэманічнай сілай. І пасля, калі адбываецца фінальны паказ фрызураў, гледачы не шкадуюць апладысментаў!*

Няфёдаў ладзіў нешта падобнае і ў сярэдзіне 1990-х у Гродне. Але ён не лічыць сябе тэатральным чалавекам, хаця і працаваў у Гарадзенскім абласным драматычным тэатры.

*- Я там рабіў фрызуры, каб самарэалізавацца напоўніцу,* - успамінае наш герой. *– Але, на маю думку, у тэатры больш важную ролю павінны граць грымёры. Дый тэатральнае жыццё не для мяне, вельмі цяжка было разарвацца паміж уласным салонам і тэатрам...*

Але рэч, хутчэй за ўсё у тым, што, як выбітная творчая асоба, Уладзімір Няфёдаў самадастатковы («сам сабе рэжысёр»), здольны набраць «акцёраў» з вуліцы, каб арганізаваць «уласны спектакль» і выступіць у ім у галоўнай ролі. Менавіта так адбывалася і падчас штогадовых «Фестываляў фрызураў» у Рызе, дзе Валодзя заўсёды займаў пераможныя месцы.

*- У латвійскай сталіцы я шукаў сваіх мадэляў сярод звычайных людзей у кафэшках і на танцпляцоўках,* - згадвае Уладзімір Няфёдаў. *– Падчас фінальнага паказу, нікому і ў галаву не прыйшло, што на сцэне былі не топ-мадэлі, а запрошаныя мною «з вуліцы» дзяўчаты і хлопцы...*

Безумоўна, да мадэляў, нават узятых з вуліцы, таксама ёсць пэўныя абмежаванні: рост для хлопцаў – не ніжэй за 170 см, дзяўчат – не ніжэй за 160 см. Узрост не павінен перавышаць 30 гадоў. Але і майстар ставіцца ў экстрэмальныя ўмовы. Ён на працягу дзвюх гадзінаў павінен падрыхтаваць сваю «калекцыю» – «прычасаць» ажно 12 чалавек – чатырох хлопцаў і восем дзяўчат! А калі ўлічваць, што ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі (у Рыжскім фэсце зазвычай удзельнічаюць лепшыя цырульнікі з 36 краінаў свету!) існуе і нярвовая напруга, дык такое заданне можа падацца ўвогуле нездзяйсняльным. І, калі перамагае ў Рыжскім фестывалі беларускі майстар Уладзімір Няфёдаў, ягоныя сталыя кліенты і прыхільнікі адчуваюць неверагодную радасць не толькі за сябе і родны горад, але і за ўсю Беларусь.

**Юры ГУМЯНЮК**

> ■ ***Ларыса Ластачкіна,** галоўны рэдактар часопіса "Семейный бизнес" (Менск) і газеты «В свободный вечер» (Гродна):*
>
> - Няфёдаву ледзь хапае сродкаў на арэнду маленькага салона і ўплату падаткаў індывідуальнага прадпрымальніка. У салоне няма нават стацыянарнага тэлефона. Сам майстра лепш патраціць грошы на якасную касметыку і інструменты, бо гэта для яго – святое. Кожны раз, калі наведваю Гродна, заходжу ў ягоную майстэрню, каб паназіраць за працай Валодзі і пераканацца, што гарадское жыццё і эканамічная сітуацыя ў краіне не расплюшчылі гэтага вялікага і па-вясковаму грубаватага неўтаймоўнага Майстру. Няфёдаў так і не выпрацаваў імунітэта супраць жорсткага і, часам, хлуслівага багемнага жыцця, так і не навучыўся зарабляць грошы на сваім таленце. Але, менавіта дзякуючы ягоным рукам я ператварылася з расчэсанай на прабор камсамольскай актывісткі у белакурую бестыю, і жыццё маё крута перайначылася!



*«Дэман» Уладзімір Няфёдаў і белакурая бестыя Ларыса Ластачкіна*

## Нарабілася

**60-гадовая** пенсіянерка засекла сваю 82-гадовую сабутэльніцу. Труп адзінокай пенсіянеркі з сечанай ранай ілба знайшлі суседзі ў яе ж хаце, у вёсцы Далматаўшчына Карэліцкага раёна. Следства высветліла, што забойства здзейсніла аднавяскоўка пенсіянеркі. Бабулі разам выпівалі, а затым пасварыліся. Апошнім аргументам у спрэчцы стала сякера.

■

**Нямецкі** снарад часоў Другой Сусветнай вайны знайшлі навучэнцы дзятлаўскай СШ№3 падчас ускопвання клумбы на падворку школы. Тэрмінова прыйшлося адмяніць заняткі і правесці эвакуацыю настаўнікаў і вучняў. Разміhandваннем займаліся сапёры, якіх адмыслова выклікалі з Гродна. Яны вывезлі снарад за горад і паспяхова яго абясшкодзілі.

■

**Восем** кітайцаў-нелегалаў затрымалі супрацоўнікі ДАІ і аддзела аховы Смаргонскага РАУСа. Іншаземцаў, якія не мелі пры сабе аніякіх дакументаў, пад пакрывам ночы везлі ў накірунку Астравеччыны на сваіх машынах два афіцыйна беспрацоўныя менчукі. Кітайцы мелі намер нелегальна прайсці праз беларуска-літоўскую мяжу, каб падаць затым далей на Захад. Мігранты і іх беларускія саўдзельнікі знаходзяцца зараз ў ізалятары часовага ўтрымання. Кітайцаў па высвятленні асабістых дадзеных чакае дэпартацыя.

■

**Тры** жыхары Гарадзеншчыны загінулі ў агні на мінулым тыдні. У вёсцы Пескі Мастоўскага раёна бацька з сынам выпівалі і заснулі з непатушанымі цыгарэтамі. У вёсцы Яхноўшчына Дзятлаўскага раёна таксама згарэў мужчына.

Фота Андрэя АДЛЯНІЦКАГА

*Начальнік Ленінскага РАУС Уладзімір Сычэўскі (злева) не бачыць у дзеяннях супрацоўнікаў КГБ складу злачынства*

# Міліцыя крые КГБ, а КГБ маўчыць

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

Як доказ гэтай версіі, у пастанове прыводзіцца той факт, што ў ходзе асабістага дагляду ў іх, нібыта, была знойдзена бутэлька гарэлкі "Полярный медведь" і пластыкавыя стаканы. Саўткін сцвярджае, што гэтыя людзі ўсяго толькі стаялі перад дзвярыма ДНЯ, пілі і, пры гэтым, не закусвалі.

Дзе цяпер знаходзяцца "Вашкевіч" і "Макараў", у міліцыі не ведаюць.

Між тым, пасля таго, як у артыкуле "Наша служба и опасна и трудна" (глядзі ДЕНЬ №9 ад 25 сакавіка. – **заўвага рэд.**) мы распавялі пра тое, што асобы, затрыманыя падчас спробы пранікнення, падалі несапраўдныя дадзеныя, міліцыя спрабавала высветліць, хто ж на самой справе быў затрыманы ля офіса ДНЯ. Для гэтага оперупаўнаважаны Саўткін нават спецыяльна выклікаў старшыню Гарадзенскай абласной арганізацыі БНФ Сяргея Мальчыка і сябра БНФ Міколу Лемяноўскага, дзякуючы якім зламыснікі былі затрыманыя. Ён прапанаваў Мальчыку і Лемяноўскаму дапамагчы ўстанавіць асобы зламыснікаў з дапамогай міліцэйскай базы дадзеных. Больш таго, Віктар Макараў, дадзенымі якога скарыстаўся адзін са зламыснікаў, выклікаўся ў Ленінскі РАУС і даваў тлумачэнні.

Аднак, потым, відаць, паступіў адпаведны загад і цяпер міліцыя сцвярджае, што "Вашкевіч" і "Макараў" сапраўды існуюць.

### Вягера не выканаў дырэктыву прэзідэнта

19 сакавіка рэдакцыя газеты ДЕНЬ звярнулася з афіцыйным запытам да начальніка УКГБ па Гарадзенскай вобласці Віктара Вягеры. Прымаць рэдакцыйны запыт да нас выйшаў чалавек, які прадставіўся, як "камандзір падраздзялення С. В. Кот". Першымі ягонымі словамі былі:

*- Чаму вы думаеце што на гэта (тут ён паказаў на рэдакцыйны запыт) мы будзем адказваць?*

Толькі пасля праведзенага экскурса ў беларускае заканадаўства "С.В. Кот" прыняў рэдакцыйны зварот. Аднак, нягледзячы на тое, што прадугледжаны законам "Аб друку і іншых СМІ" тэрмін адказу ужо мінуў, ніякай інфармацыі з КГБ мы так і не атрымалі. Таму мы вырашылі звярнуцца ў пракуратуру Гарадзенскай вобласці з патрабаваннем высветліць, чаму Віктар Вягера не выконвае патрабаванні закона. Будзем спадзявацца, што там разбяруцца ў сітуацыі, асабліва, калі ўлічваць тое, што не адказваючы на зварот у прадугледжаны тэрмін, Вягера парушае таксама і славутую дырэктыву №1. Так, у адпаведнасці з пунктам 1.5 узгаданага дакумента, на Савет міністраў накладваецца абавязак "рэгулярна аналізаваць практыку рэагавання на звароты грамадзянаў. Па выяўленні фактаў бюракратызма і валакіты, парушэння парадка разгляда зваротаў, акрэсленага заканадаўствам, неадкладна прымаць да вінаватых асобаў меры матэрыяльнага і адміністрацыйнага характара".

Ці будуць гэтыя меры прынятыя да Віктара Вягеры і яго падначаленых? Пра гэта мы паведамім у наступных нумарах нашай газеты.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

---

**Тэлефануйце 72-29-96**

## Дзень змагаецца за вас

# Справа №7 - ЗАЧЫНЕНАЯ!

**Як і меркавалася, заведзеная намі напрыканцы сакавіка рэпарцёрская справа №7 "Зніклы пэйджэр" цягнулася нядоўга, бо гарадзенская фірма "Защита-сервис" тэрмінова, як мы і прасілі, даслала на наш адрас афіцыйныя прабачэнні чытачу ДНЯ Аляксею Дзям'яну.**

На жаль, мы не можам напісаць, што зачыняючы справу, адчуваем поўную задаволенасць. "Защита-сервис", што праўда, вярнула Аляксею ягоную маёмасць, але пэйджэр аказаўся не падключаным. У афіцыйным адказе на зварот рэдакцыі дырэктар "Защита-сервис" І. А. Грышын патлумачыў, што так здарылася выключна па аб'ектыўных, гэта значыць – тэхнічных, прычынах. Улічваючы тое, што нашага чытача задаволіла такое тлумачэнне, адзінае, што мы павінны зрабіць – гэта апублікаваць фрагмент паслання пэйджынгавай фірмы, у якім "Защита-сервис" прыносіць прабачэнні свайму кліенту:

"*... У гражданина Демьяна пейджер Нек-21 был принят 05.01.2004 года на подключение, в чем ему выдана расписка.*

*(...)*

*23.03.2004 года Слодкевич* (супрацоўнік адказны за падключэнне/непадключэнне пэйджэраў – заўв. рэд.) *привез все пейджеры, которые находились в г. Минске, в том числе Нес-21 гр-на Демьяна, который был возвращен ему в пятницу 26.03.2004 года.*

*За неудобства, причиненные гр-ну Демьяну (...) приносим извинения...*"

Патлумачым, чаму тэкст прабачэння цытуем са значнымі скарачэннямі.

Па-першае, ані нашага чытача, ані нас не цікавіць "Защита-сервис" ці "Радиопейдж" (аператар, кліентам якога раней з'яўляўся Аляксей Дзям'ян) вінаватыя ў сітуацыі. Паводле квітка, выдадзенага чытачу 5 студзеня, і ён і мы лічым, што ў гэты дзень Аляксей стаўся кліентам "Защита-сервис" і цяжкасці ў супрацоўніцтве паміж фірмамі-канкурэнтамі яго цікавіць не павінны.

Па-другое, напрыканцы свайго паслання "Защита-сервис" патрабуе абвяржэння негатыўных звестак пра сябе, якія былі апублікаваныя рэпарцёрамі ДНЯ. Больш за тое, выказванне "скандальна вядомая фірма" "Защита-сервис" лічыць абражаючым дзелавую рэпутацыю фірмы.

Шаноўныя супрацоўнікі "Защита-сервис", калі хочаце публікаваць пазітыўныя артыкулы пра сваю дзейнасць у нашай газеце, калі ласка - на правах рэкламы, зразумела. Калі ж хочаце, каб мы апублікавалі крыптарэкламны матэрыял, то звяртаецеся не па адрасе. Такім пяром ў Гродна займаюцца іншыя газеты. Што тычыцца абвяржэння выказвання "скандальна вядомая фірма" - мы ў любы момант можам вам прадставіць звесткі, апублікаваныя ў гарадзенскай прэсе (дарэчы - не абвергнутыя), якія зусім не пазітыўна сведчаць пра вашую дзейнасць. А, менавіта, дзякуючы незалежным журналісцкім публікацыям, таксама фірмы, як і публічныя асобы, набываюць скандальную ці іншую вядомасць.

З павагай,

**Рэпарцёры ДНЯ**

## Працяг справы

# Справа №1 - скандальныя навіны

**Мы ўжо, шчыра кажучы, стаміліся публікаваць новыя і новыя доказы злачыннай некампетэнтнасці ды злой волі кіраўніцтва беларуска-нямецкага СП "Экалагічныя праекты", якім кіруе дырэктар Аляксандр Нічыпар, кантралюемы страшнёй СГКП "Кастрычнік" Віктарам Крамко. Але нашая стомленасць не азначае, што мы скончым гэта рабіць, тым больш, што парушэнні з боку скандальнага СП становяцца ўсё больш відавочнымі.**

На фотаздымках вы можаце пабачыць, якім чынам дырэктар Нічыпар паспрабаваў выканаць рашэнне суда, паводле якога, былому дырэктару СП "Экалагічныя праекты" і нашаму чытачу Анатолю Іванову згаданая фірма павінна была выдаць працоўную кніжку.

Перад тым, як патлумачыць, што вы бачыце на здымках распавядзем, што насуперак практыцы выканання судовых рашэнняў, Нічыпар выслаў працоўную кніжку свайму папярэдніку заказным лістом, не кансультуючыся пра гэта ані з самім Івановым, ані з судовым выканаўцам. Аднак наш чытач аказаўся чалавекам дасведчаным і зразумеў, што такім шляхам СП можа выслаць яму што заўгодна. Менавіта таму, каб не даваць падставаў Нічыпару сцвярджаць, быццам ён выканаў рашэнне суда, Анатоль Іваноў запрасіў на пошту судовага выканаўцу, у прысутнасці якога і быў адкрыты канверт.

А ў ім – працоўная кніжка, складзеная з такой колькасцю парушэнняў працоўнага заканадаўства, што, калі і спрабаваць называць яе дакументам, то - дакументам злачыннай некампетэнтнасці кіраўніцтва СП "Экалагічныя праекты".

Не будзем турбаваць вас тлумачэннем усіх парушэнняў, звернем толькі ўвагу на тое, што на тытульнай старонцы працоўнай кніжкі пазначана дата яе запаўнення 24.02.2004. Тым часам з запісу пра звальненне Іванова мы даведваемся, што наш чытач быў звольнены 13.04.2001.

Атрымліваецца, што дырэктар Нічыпар не навучаецца ні пры дапамозе вусных, ні - пісьмовых (рашэнні), тлумачэнняў беларускага правасуддзя, якое адназначна і неаднакратна тлумачыла яму, што дата звальнення, пазначаная ў працоўнай кніжцы, павінна адпавядаць сапраўднай - не тое, што даце запаўнення, але – даце выдачы работніку гэтага дакумента.

Будзем сачыць, да якога яшчэ абсурда дадумаюцца "квасоўскія мысліцелі", каб не выканаць закон і абавязкова паведамім пра гэта вам.

**Рэпарцёры ДНЯ**

ПРАЦОЎНАЯ КНІЖКА
ТРУДОВАЯ КНИЖКА
ПК № 1003760

*«Выкананне» рашэння суда паводле дырэктара СП «Экалагічныя праекты» А. Нічыпара*

# 11 «І» клас гімназіі №1

**Упершыню нашая рубрыка завітала ў гімназію №1. Так атрымалася дзякуючы вучням 11 "І" класа гэтай навучальнай установы, якія вырашылі прыняць удзел у акцыі "Наша будучыня".**

**Нагадаем, что мэтай нашай забавы з'яўляецца абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы - вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне: 72-29-96.**




***Першы рад знізу:** Вадзім Смок, Аляксей Ігнацік, Аляксандр Гушча, Васіль Капуста, Аляксандр Сушчэня, Андрэй Пакроўскі **Другі рад:** Ірына Цімошчанка, Таццяна Сарока, Юлія Копач, Валянціна Бараноўская, Таццяна Казак, Яўгенія Быхта, Надзея Казак, Таццяна Жывіцкая **Трэці рад:** Марта Пекарэц, Таццяна Лязоўская, Святлана Зверава, Валерыя Быхта, Анастасія Талстова, Наталля Траян, Марыя Камарова*

**Вадзім Смок**

Любіць "наладжваць кантакты" з замежнымі культурамі і марыць пра падняццё аўтарытэта нашай краіны на міжнароднай арэне. Усё гэта паўплывала на тое, што прафесійную кар'еру Вадзім хоча распачаць з працы перакладчыка. Неабходны для гэтай прафесіі кругагляд, хлопец пашырае пры дапамозе навукова-папулярнай літаратуры.

**Аляксей Ігнацік**

Разам з сябрам Васілём Капустай (глядзі ніжэй) Аляксей вырашыў прысвяціць жыццё змаганню са злачынцамі. З усіх праваахоўных органаў хлопцу найбольш падабаецца КДБ ды АБЭЗ. Амаль увесь свой вольны час Аляксей прысвячае фізічнай падрыхтоўцы да службы ў органах. Ён займаецца скалалазаннем, плаваннем, гандболам, фехтаваннем, грэка-рымскай барацьбой, шахматамі і шмат чым яшчэ.

**Аляксандр Гушча**

Прэстыжнай ды высакароднай лічыць працу лекара і, менавіта ў ёй бачыць сваё прафесійнае прызванне. Эскулапы, як вядома, павінны самі вызначацца добрым здароўем. Гэтаму спрыяюць заняткі Аляксандра тэнісам ды футболам. А свой інтэлектуальны патэнцыял ён павялічвае падчас размоваў з цікавымі людзьмі і чытання пазнавальнай літаратуры. Куміры хлопца - знакамітыя лекары мінуўшчыны.

**Васіль Капуста**

Сябруе з Аляксеем Ігнацікам (глядзі вышэй) і, як мы ўжо ведаем, рыхтуецца да працы ў праваахоўных органах, бо гэтая праца "захапляльная і высокааплачваемая". Спорт, чытанне фантастычных раманаў, прагляд аналітычных тэлеперадач, музыка – мяркуючы па захапленнях, з Васіля атрымаецца следчы-інтэлектуал, які дасць рады з найбольш складанымі злачынствамі.

**Аляксандр Сушчэня**

Надзея айчыннай сельскай гаспадаркі, бо марыць стаць фермерам. Мяркуючы па захапленнях Аляксандра, першыя навыкі працы на полі ён здабывае, калі дапамагае бацькам на лецішчы. Акрамя таго, будучы фермер захапляецца футболам, геадэзіяй ды картаграфіяй, калекцыянуе ўкладышы "Турбо" і хоча быць падобным на прэзідэнта ЗША - Джэфферсана, пры якім пачаўся росквіт амерыканскай сельскай гаспадаркі.

**Андрэй Пакроўскі**

Каб абараняць Айчыну, Андрэй хоча стаць вайсковым лётчыкам. Рыхтуючыся да службы ў паветраных сілах, хлопец займаецца авіямадэляваннем, вывучае разнастайныя віды стралковай зброі ды пазнае гісторыю "халоднай вайны". Але беларускі афіцэр, вядома, павінен быць падрыхтаваны да розных жыццёвых сітуацыяў. Дзеля гэтага, Андрэй захапляецца, напрыклад, жывапісам Пабла Пікассо ды біётыкай. Кумірам Андрэя з'яўляецца знакаміты лётчык Валеры Чкалаў.

**Ірына Цімошчанка**

Захапляецца вывучэннем замежных моваў і рыхтуецца да таго, каб стаць перакладчыцай. Акрамя гэтага, Ірына займаецца спортам, музыкай, маляваннем, а таксама любіць хадзіць з сяброўкамі ў кіно. Сярод вядомых дзяўчыне людзей, па чалавечых ды іншых якасцях, яна вызначае свайго брата і менавіта на яго хоча быць падобнай.

**Таццяна Сарока**

Пачуццю прыгожага і ўменню бачыць свет не так, як іншыя, Таццяна навучыцца, калі стане фатографам. Акрамя фатаграфавання і заняткаў у гімназіі, гэтая дзяўчына прысвячае час плаванню, чытанню дэтэктываў, дыскатэкам ды размовам з сябрамі.

**Юлія Копач**

Вельмі любіць падарожжы ды знаёмствы з цікавымі людзьмі і гэтыя захапленні плануе рэалізаваць, калі вывучыцца на перакладчыцу. У далёкіх краінах Юлі вельмі прыдасца добрае веданне музыкі, сучасных танцаў ды эрудыцыя, якую дзяўчына здабывае, дзякуючы чытанню "добрых кнігаў".

**Валянціна Бараноўская**

Каб усталяваць справядлівасць у нашай краіне, Валянціна ўжо распрацавала падрабязны план сваёй працоўнай кар'еры. Калі дзяўчына атрымае дыплом юрыста, найперш папрацуе адвакатам, пасля чаго стане суддзёй. Добрая музыка, плаванне, замежныя мовы, інтэрнэт, забавы з сябрамі, чытанне добрай літаратуры – для ўсяго гэтага Валянціна знаходзіць час. А найбольш аўтарытэтнымі людзьмі для яе з'яўляюцца бацькі. "Яны вельмі разумныя людзі", – кажа пра іх дачка.

**Таццяна Казак**

Вызначаецца пачуццём гумару і веданнем жартаў КВЗ. "Хачу стаць выкладалай. Таму што цішыня павінна быць у бібліятэцы", – цытуе Таццяна жарт сочынскай каманды "Утомленные солнцем". Што тычыцца гумару дзяўчыны, у сувязі з пытаннем пра яе захапленні, мяркуйце самі: "Цяжкая атлетыка".

**Яўгенія Быхта**

Дакладна не ведае, кім стане, але прафесія Яўгеніі напэўна будзе звязаная з веданнем замежных моваў. Мяркуючы па захапленнях дзяўчыны, прафесійны выбар у яе сапраўды багаты: падарожжы, замежныя культуры, музыка, размовы з цікавымі людзьмі ды здаровы лад жыцця.

**Надзея Казак**

На ўсялякі выпадак паведамім, што гэтая дзяўчына не сястра Таццяны і ў адрозненні ад сяброўкі на нашыя пытанні адказвала сур'ёзна. Хаця, будучая прафесія Надзеі – інструктар у школе верхавой язды – трапляецца ў нашай акцыі ўпершыню. А яшчэ дзяўчына вызначаецца тым, што добра грае на гітары ды фартэп'яна.

**Таццяна Жывіцкая**

Будучыня свету ў міжкультурных камунікацыях – упэўненасць у гэтым паўплывала на тое, што Таццяна хоча стаць спецыялістам менавіта ў гэтай галіне. Спаўненню мары дзяўчыны, напэўна, паспрыяе тое, што яна сур'ёзна займаецца вывучэннем моваў і музыкай. Фізічную форму Таццяна падтрымлівае, наведваючы басейн.

**Марта Пекарэц**

Выбар прафесіі вызначыла любоў дзяўчыны да падарожжаў – турыстычны агент. Каб заўсёды быць у добрай форме і не прынесці сораму сваёй краіне, калі, раптам, патрапіць на бразільскі карнавал ці футбольны "мундзіяль", Марта прысвячае вольны час заняткам танцамі ды спорту.

**Таццяна Лязоўская**

Спорт ды музыка – яе галоўныя захапленні. Як іх спалучыць у прафесійным жыцці? Таццяна знайшла выйсце і рыхтуецца вывучыцца на трэнера па фітнэсу. Што тычыцца чалавека, на якога дзяўчына хоча быць падобнай, адказ Таццяны гучыць: "На Джэніфэр Лопэз – эфектная асоба".

**Святлана Зверава**

Рыхтуецца зрабіць кар'еру ў турыстычным бізнесе, таму што любіць падарожжы. У тое, што Святлана зможа стаць душой для любой кампаніі, мы верым ужо таму, што гэтая дзяўчына захапляецца пісаннем вершаў. Акрамя таго, Святлана няблага разбіраецца ў кампутары.

**Валерыя Быхта**

А вось на гэты раз падабенства прозвішчаў не выпадковае. Пра сястру дзяўчыны – Яўгенію вы маглі прачытаць ужо трошачкі раней. У адрозненні ад сястры, Валерыя дакладна ведае, што будзе працаваць у сферы камунікацыяў. А яе самым вялікім захапленнем з'яўляецца вывучэнне моваў.

**Анастасія Талстова**

Будзе ўпрыгожваць нашае штодзённае атачэнне, калі вывучыцца на дызайнера. Пакуль жа добрыя эстэтычныя пачуцці выклікае назіранне за Анастасіяй вярхом на кані, падчас яе заняткаў у клубе верхавой язды. Акрамя гэтага, дзяўчына знаходзіць час на музыку, маляванне, ролікі, інтэрнэт і вывучэнне нямецкай, італьянскай ды англійскай моваў.

**Наталля Траян**

Вызначаецца вельмі лаканічнай і трапнай гаворкай. Можа таму, што рыхтуючыся да паступлення на філалагічны факультэт, Наталля дакладна зведала цану кожнаму сказанаму ці напісанаму слову. Сярод захапленняў дзяўчыны адзначым музыку, танцы і, вядома, вывучэнне моваў.

**Марыя Камарова**

Перспектыўным і захапляльным заняццем лічыць бізнес. І менавіта ім збіраецца займацца ў жыцці. Паспяховай бізнес-вумэн не пашкодзіць валоданне мовамі, а таксама заняткі тэнісам ды плаваннем. Кумірам Марыі з'яўляецца знакамітая Мэрылін Манро.

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас: 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

**КУПОН-ЛАТАРЭЯ**

**Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»**

Мне найбольш спадабаўся клас_____ школы________

Імя____________ Прозвішча________________

Мой кантактны тэл.______________________

Адрас:__________________________________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «День» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# «Пасха – свята святаў»

**Пад такой назвай у мінулую пятніцу ў Абласным навукова-метадычным цэнтры народнае творчасці (АНМЦ) адкрылася пасхальная выстава майстроў Гарадзеншчыны.**

*- Выстава была арганізавана па ініцыятыве Гарадзенскай епархіі,* - паведаміў ДНЮ супрацоўнік аддзела выяўленчага мастацтва АНМЦ **Алесь Аўчыннікаў**. – *На адкрыцці прысутнічаў сам уладыка Арцемій, які звярнуўся з прывітальнай прамовай да прысутных і распавёў пра сэнс і значэнне Пасхі, як найвялікшага хрысціянскага свята...*

На экспазіцыі, якая будзе доўжыцца цэлы месяц, свае працы – вырабы з дрэва, саломкі, скуры, жывапіс, вышыўку і непаўторныя пісанкі – прадставілі лепшыя майстры Прынёмання. Варта адзначыць вышыўку кананічных ікон Святланы Семашкевіч з Воранава, арыгінальныя аклады да абразоў з фальгі, зробленыя Марыяй Харытончык з Зэльвы, скураную выяву Каложы ды іншыя працы сямейства Пярвухіных, "Маці Божую Вострабрамскую" ды яшчэ 26 абразоў гарадзенкі Галіны Курносавай. Не пакідае раўнадушным гледачоў і жывапіснае палатно Сяргея Цыбізава "Першае прычасце".


Велікодная пісанка

**Вацлаў ГАЛІМСКІ**

## Дурноты нашага жыцця

# Артысты і рэжысёры з пагарэлага тэатра



**Звальненне галоўнага рэжысёра Гарадзенскага абласнога тэатра лялек Мікалая Андрэева нельга назваць першакрасавіцкім прыколам, хаця менавіта на prima aprilis рэжысёр пакінуў тэатр, якому аддаў больш за 16 гадоў свайго жыцця.**

Уся гэтая гісторыя папахвае дробнамяшчанскім скандальчыкам у мясцовай багемна-правінцыйнай багне. Прыкрым ляпсусам пасля атрымання тэатрам Прэзідэнцкай прэміі за вялікія дасягненні ў галіне культуры. За фармальны повад звальнення рэжысёра можна палічыць непрыняццё мастацкай радай тэатра ягонай пастаноўкі "Беласнежка і сем красналюдкаў", але сабака закапаны значна глыбей.

*- Шкада, канешне, што Андрэеў сышоў,* - з жалем гаворыць актор **Віктар Шалкевіч.** – *Усё ж-такі ён шмат гадоў фармаваў мастацкі накірунак гарадзенскага тэатра лялек, як арыгінальнае з'явы ў беларускай культуры. Пры ім на сцэне ўвасобіліся і купалавы "Тутэйшыя", і творы Караткевіча, Вольскага, Грачанікава, быў пастаўлены "Прыхадзень", які меў неверагодны поспех у Францыі. А зараз назіраецца нейкая лажа...*

Вось тая "лажа", пра якую гаворыць Віктар, пачала назірацца прыкладна з 2000 года, калі з лёгкай рукі дырэктара Аляксандра Ігнаценкі ў Гродна з Магілёва перабраўся рэжысёр Алег Жугжда энд кампані. З таго часу на сцэне тэатра лялек не паўстала аніводная рэч на беларускай мове! Нават паэму Я.Купалы "Сон на кургане" зрабілі да 120-годдзя народнага песняра "паэмай без слоў". Абы не гучала гэтая "хамская мова" з высокіх тэатральных падмосткаў.

Натуральна, Алег Жугжда вельмі таленавіты рэжысёр, вытанчаны эстэт з неверагоднымі амбіцыямі, але...

*- Пачалася бяда з нашым тэатрам, калі панаехалі гэтыя "магілёўскія бежанцы",* - абурана заявіў адзін вядомы ў горадзе актор, які не пажадаў, каб яго прозвішча фігуравала ў друку. – *Яны фактычна развалілі тэатр лялек у Магілёве і сталі "ракавай пухлінай" на здаровым целе нашага калектыву. І цяпер метастазы ад таго "раку" паволі раз'елі наша творчае цела. Ну нельга ж пераўтвараць дзяржаўны тэатр у сямейную антэрпрызу рэжысёра Жугжды, яго жонкі і яе сястры, галоўнай мастачкі і яе мужа!*

Нейкі час Алег Жугжда папрацаваў і мастацкім кіраўніком Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра. Але начальнікі ад культуры паставілі самаўлюбёнага рэжысёра перад жорсткай дылемай: "Або ты кіруеш тэатрам, або ездзіш па замежжам грошы зарабляць!" Амбітны рэжысёр выбраў апошняе, а цяпер, пасля звальнення Андрэева, прэтэндуе на ягоную пасаду.

Выдатна, канешне, калі творчая асоба мае вялікія амбіцыі. Але эгаізм, хай сабе нават творча абумоўлены, можа нашкодзіць іншым, бо тэатр – гэта не індывідуальная, а калектыўная творчасць!

**Юры ГУМЯНЮК**

## Перадузяты агляд прэсы

# Не хапіла форс-мажора

***«Разумных бараноў наогул жа нямнога,***
***А гэты – дык дурней дурнога...»***
***Кандрат КРАПІВА***

**Кожны, хто - як кажа моладзь - "павёўся" на першакрасавіцкі розыгрыш быццам мяне завуць Аляксандр Рашчупкін, той – "бамбук" :-)**

Фанаў, "выкарыстанага" дзеля смеху дзяржаўнага журналіста, супакою: ужо пасля выхаду мінулага нумара ДНЯ "саўбельшчык" наведаў рэдакцыю і, мяркуючы па расповеду шчоўкапёраў - на мяне не пакрыўдзіўся (маўляў - што ўзяць са свінні?), а некаторым з днёўскіх пісакаў - нават паціснуў руку. Спадзяюся, што гэты акт прайшоў адпаведна з правіламі асабістай гігіены і ніводная "акула пяра" ад майго дэвіацыйнага пачуцця гумару не пацярпела. І дзякуй, прабачце, Богу.

А цяпер – традыцыйны агляд.

***

Уразіла бездапаможнасць журналісткі "Гродненской правды", якая паехала на адпачынак у Варшаву рэйсавым аўтобусам, маршрут якога заканчваецца раніцай на сталічным стадыёне "10-годдзя" і згубілася, як кажуць: "у трох соснах".

*"В шесть утра **по московскому времени** пассажирам велели покинуть автобус. Просьбы не подействовали. Конечная остановка Варшава – и точка. **Пришлось выходить в холодную тьму и искать укрытие от ветра и мокрого снега**".*

Мяне ўжо даўно не здзіўляе тое, што **журналісты "ГП" жывуць па маскоўскім часе.** Толькі навошта хлусіць, быццам **кіроўца аўтобуса просіць** пасажыраў **выходзіць у чатыры раніцы** па часе варшаўскім? **На самой справе** пасажыраў высаджваюць **на гадзіну пазней**, калі ў Варшаве ўжо адчыненыя кіёскі і курсуе гарадскі транспарт. Тое, што **рэпарцёрка "ГП"** гэтага не заўважыла і на чыгуначны вакзал дабіралася на таксі – можа сведчыць пра **"тапаграфічны крэтынізм"**, ды **высокія заробкі** дзяржаўных журналістаў.

***

"Биржа информации" вызначылася "супер-загалоўкам". Пстрычку пра тое, што гарадзенскія дзяўчыны рыхтуюцца да ўдзелу ў гарадскім конкурсе прыгажосці "БИ" назвала:

***"У красавиц – критические дни".***

Па аналогіі, падчас падрыхтоўкі кожнага нумара "БИ", яе супрацоўніцы таксама перажываюць стан, падобны да "крытычных дзён". Незразумела толькі, чаму аўтарам пстрычкі з такой назвай аказаўся мужчына. Можа - **агаворка па Фрэйду?**

***

Пра тое, што рэдактары "Вечернего Гродно" не адрозніваюць "канферанс" ад "рэверанса" мы ўжо ведаем. На мінулым тыдні незвычайную кар'еру ў гэтай газеце зрабіла яшчэ адно іншамоўнае словаспалучэнне. На гэты раз – у рэцэнзіі на прэм'ерны паказ п'есы "Кракадзіл" абласнога драматычнага тэатра.

*"**Актерам еще предстоит разыграться**, чтобы исчезли немного затянутые диалоги первого акта. **Хочется** больше динамики и **форс-мажора**".*

**Калі аўтаркі рэцэнзіі даведаюцца пра** значэнне паняцця **"форс-мажор", то зразумеюць, што** ў дачыненні да спектакля яны **пажадалі, каб нехта з актораў зваліўся, напрыклад, у аркестровую яму, ці** – у самы неадпаведны момант – **пачалі ўзрывацца** тэатральныя **сафіты.** Можа, **калі акторы разыграюцца** – так яно і здарыцца?



Усім на бліжэйшым тыдні жадаю не трапляць ні ў якія "форс-мажоры",

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

## Тэлефоннае апытанне гарадзенцаў

# Чаму і хто нас пужае – мы ведаем

**Першакрасавіцкія настроі ў беларускіх дзяржаўных СМІ былі сапсаваныя чарговым наступам НАТА на ўсход. Ад істэрычных пасажаў каментатараў, што "натаўскія самалёты ўжо патрулююць паветраную прастору нашай паўночнай суседкі Літвы", ствараецца ўражанне, быццам з дня на дзень над "сінявокай" пачнуцца дывановыя бамбардзіроўкі...**

Нашага чытача Станіслава Іосіфавіча настолькі ўразіла непаслядоўнасць дзяржаўных агітатараў ды прапагандыстаў, што ён патэлефанаваў у рубрыку і сказаў: "Ужо некалькі гадоў самалёты НАТА патрулююць паветраную прастору Польшчы і я, асабіста, як гарадзенец, не адчуваю ў сувязі з гэтым ніякай небяспекі. Можа істэрычныя каментатары ўжо забыліся пра тое, што гарадзенцы даўно жывуць на мяжы з НАТА і іх гэта зусім не пужае".

А сапраўды... Ці адчуваеце Вы небяспеку ў сувязі з тым, што самалёты НАТА патрулююць паветраную прастору Літвы? – запыталіся мы гарадзенцаў.

### Ці адчуваеце вы небяспеку з боку НАТА?




**Адчуваю – 46%**

"Мяжа ж – побач, таму зразумела, што НАТА выклікаў у мяне пачуццё небяспекі", – патлумачыла адна з прадстаўніц гэтай групы апытаных. Дарэчы, мяркуючы па нашым апытанні, пашырэнне НАТА найбольш палохае менавіта жанчынаў. Некаторыя з іх, нават не могуць знайсці рацыянальнага тлумачэння сваім жахам. "Не магу патлумачыць – чаму, але небяспеку адчуваю", – паведаміла адна з апытаных. А адзін з нешматлікіх прадстаўнікоў моцнай паловы, які прызнаўся ў пачуцці небяспекі распавёў: "Нічога добрага ў гэтым пашырэнні няма прынцыпова. Я асабіста не баюся, але ў тым, што небяспека існуе – не сумняюся".

**Не адчуваю – 54%**

Большасць гарадзенцаў, нягледзячы на намаганні дзяржаўнай прапаганды, не адчуваюць небяспекі ў сувязі з пашырэннем Паўночна-атлантычнага альянса. Можа гэта сведчыць пра гераізм жыхароў нашага горада? А можа проста досвед жыцця на беларуска-польскай мяжы, якая ўжо некалькі год з'яўляецца мяжой НАТА, падказвае, што не такі жахлівы гэты НАТА, як яго "малюе" беларускае тэлебачанне?

"Нягледзячы на ўсе паведамленні ТБ – ніяк не магу адчуць небяспеку з боку натаўскіх самалётаў", – паведаміў мужчына. А малады хлопец прызнаўся, што пра нейкую небяспеку чуў ад школьных настаўнікаў і нават спрабаваў гэтую інфармацыю асэнсаваць. "Але мне чамусьці не страшна", – неяк нават расчаравана прызнаўся ён. А жанчына, што патрапіла ў лік мужных гарадзенцаў, адказала: "Я ўвогуле не магу зразумець, чаму мы павінны некага баяцца. Мы ж беларусы, а не нейкія тэрарысты".

Па нашым меркаванні, лепш за ўсё патлумачыў ірацыянальную сутнасць страха, які адчуваюць некаторыя гарадзенцы, мужчына пенсійнага ўзросту: "Ніякай небяспекі ў гэтым няма і беларусам пужацца НАТА абсалютна не трэба. Бо чаму і хто нас гэтым НАТА пужае – мы дасканала ведаем".

**А. ПЫТАЛЬНІК**

ДЕНЬ

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.
**Тэл.:** (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 **E-mail:** pagonia@promedia.by

Нумар газеты надрукаваны на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат», 214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8203
Аб'ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку 7.04.2004 у 01:00.